



# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

22 сакавіка 2019 года №12 (1247)

18+


# На звалку пад Маладзечнам штодзень вывозяць 100 кілаграмаў пластыку



Маладзечанскія школьнікі вывучаюць, наколькі катастрафічна мы псуём экалогію

старонка 2

Фота John Cancalosi / National Geographic.

## Што ў Маладзечне за завод-здань?

старонка 3



ISSN 1991–7155



Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



## У бальніцы працуе скрынінгавы цэнтр і рыхтуюцца да ўстаноўкі тамографа

ВІЛЕЙКА

**Пра гэта галоўны доктар Вілейскай ЦРБ Ігар Спільнічэнка распавёў на сустрэчы з жыхарамі Асіпавічаў 14 сакавіка.**

Група райвыканкама на чале са старшынёй **Алегам Бегунцом** сустрэлася з жыхарамі Асіпавіцкага сельсавета і работнікамі райаграсэрвісу, паведамляюць на сайце Вілейскага райвыканкама.

Намеснік старшыні **Святлана Дзяруга** прыгадала, што некалькі год таму ў Асіпавічах вымушаныя былі зачыніць школу, бо хадзіла мала дзяцей. Будынак школы выстаўляецца на продаж праз аўкцыён.

> Магчыма, аптымізуюць дзіцячы садок. Бо па спісе там пяць дзяцей, а ходзяць два-тры. Пры гэтым працуе ў садку 12 чалавек.

Пытанне абмяркуюць. Калі садок усё ж зачыняць, дзяцей будуць вазіць у суседнія Шылавічы.

Галоўны доктар Вілейскай ЦРБ **Ігар Спільнічэнка** адзначыў, што з медыцынскіх новаўвядзенняў у раёне – скрынінгавы цэнтр, які ўжо працуе.

Хваробу на ранніх стадыях знайшлі ў 12 чалавек.

> А таксама рыхтуюць памяшканне для камп'ютарнага тамографа, які чакаюць у маі. Кожнага з прысутных галоўны доктар заклікаў праходзіць штогадовую дыспансерызацыю.

У Асіпавічах цяпер няма тэрапеўта. Вырашыць пытанне паабяцалі да красавіка.

Па сваіх тэмах выступілі таксама прадстаўнікі аддзела ЖКГ, РАУС, РАНС. Падвёў вынікі старшыня Вілейскага райвыканкама Алег Бегунец.

**Вілейскі райвыканкам.**




Акцыя школьнікаў.

Фота Зоі ДЫЛЕЎСКАЙ.

# На звалку пад Маладзечнам штодзень вывозяць 100 кілаграмаў пластыку

## Маладзечанскія школьнікі вывучаюць, наколькі катастрофічна мы псуём экалогію

МАЛАДЗЕЧНА

**Экалагічны майстар-клас і акцыю правялі вучні сярэдняй школы №5 у Маладзечне 15 сакавіка.**

Вядучай майстар-класа выступіла экалагічны актывіст і журналіст, адзін з аўтараў «РГ» **Аляксандра Парахня**. Паводле яе слоў, дзеці нашмат больш адкрытыя новаму. Таму менавіта праз іх прасцей змяніць спажывецкія звычкі сям'і. Калі дзіця вяртаецца дадому і ўсхвалявана расказвае пра тое, наколькі засмечаная планета, звычайна мама і тата ўспрымаюць гэта і падтрымліваюць імкненне дзіцяці жыць больш экалагічна дружалюбна.

### Лепш пластыкавы кубак ці папяровы?

У дзяцей больш развітае суперажыванне. Таму калі яны бачаць здымак чарапахі, якая заблыталася ў пластыкавым пакеце і задыхнулася, гэта іх уражвае больш, чым дарослых.

На падобных сустрэчах трэба не толькі пераканаць, чаму так важна клапаціцца пра прыроду. Але і расказаць, як гэта рабіць у паўсядзённым жыцці. Пасля дзеці прыносяць гэтыя веды дадому, і сям'я можа пачаць жыць крыху больш экалагічна.

Школьнікі ў групе былі падрыхтаваныя і маглі адказаць на многія пытанні трэнера. Напрыклад, па якіх кантэйнерах сартуюць смецце. Але некаторыя моманты былі навінкай. Аднаразовыя кубачкі для кавы, якія звонку папяровыя, зусім не бясшкодныя. Унутры яны пакрытыя плёнкай, таму іх нельга перапрацаваць, як паперу ці як пластык.. І пластыкавыя, і папяровыя шкодзяць прыродзе. Самы экалагічны кубак – шматразовы з керамікі або шкла. Зусім не цяжка яго памыць.

> Пластыкавы пакет раскладаецца каля 400 год.

Дзяўчат уразіла, што мікрагранулы ў многіх скрабах – гэта пластык, які пасля трапляе проста ў сусветны акіян. А чэкі нельга сартаваць у паперу, таму што гэты прадукт не перапрацоўваюць.

Парахня прапанавала школьнікам пагуляць у сартаванне смецця – разабраць, што ў які кантэйнер трэба выкідаць. Вучні задавалі шмат пытанняў і актыўна далучаліся да ўсіх прапаноў.

Калі іншыя школы хацелі б правесці такі майстар-клас для сваіх вучняў, трэнер ахвотна дапаможа дзецям вучыцца экалагічнасці.



Майстар-клас Аляксандры Парахні.

### Пакет бярэ кожны трэці

Пасля майстар-класа вучні пайшлі на плошчу Старое Места. Яны трымалі палатняныя торбачкі з пазітыўнымі надпісамі. А адзін удзельнік трымаў пластыкавы пакет з шыльдай «усе памруць, а я застануся».

Дзеці размаўлялі з прахожымі, расказвалі ім пра тое, як шкодна бяздумна браць пластык. А калі выкарыстоўваць пластыкавы пакет, то шматразова. Многія адмахваліся і не ішлі на кантакт.

– Мы зрабілі выснову, што жыхары мала ведаюць пра тое, як у штодзённым жыцці шкодзяць экалогіі, – расказала настаўніца нямецкай мовы школы №5 **Зоя Дылеўская**. – Адразу пыталіся, чым жа замяніць пакет. Можна торбай з тканіны. Ці выкарыстоўвайце яго шматразова.

### Колькі смецця ад маладзечанцаў

Акцыю і майстар-клас школьнікі праводзілі ў межах падрыхтоўкі навуковай даследчай працы па нямецкай мове. Увесь 6 «Б» заняты праектам. У красавіку з вынікам даследавання выступіць вучань **Іван Страх**.

Калі дзеці думалі над тэмай працы, Ваня паглядзеў дакументальны фільм пра тое, як кіт памірае ад пластыку. Гэта тэма зачапіла школьнікаў, і яны пачалі даследаваць маштаб катастрофы ў Маладзечне.

Пыталіся пра сітуацыю ў крамах на 45 вуліцах, якія замацаваныя за школай. У адным з буйных магазінаў расказалі, што пластыкавы пакет звычайна бярэ кожны трэці пакупнік. За люты толькі з гэтага аднаго магазіна пакупнікі вынеслі шэсць-дзевяць тысяч пакетаў.

«Камунальнік» распавёў, што на аднаго жыхара Маладзечна ў год прыходзіцца 172 кілаграмы смецця. І кожны дзень на звалку за горадам разам з іншым смеццем вывозяць 100 кілаграмаў пластыкавых адходаў.

У межах працы над праектам дзеці наведалі і звалку. Убачылі горы смецця, птушак і бездань пластыку. Тэма даследавання паўстала перад вачыма ў поўны рост.

Сваім даследаваннем школьнікі хочуць звярнуць увагу на тое, наколькі вялізны маштаб праблемы. Гэта не аддаленыя праблемы з кітамі ў акіяне. Гэта па сто кілаграмаў пластыку ў дзень, якія застануцца пад Маладзечнам на стагоддзі. І гэта гара павялічваецца з кожным пакетам, які вы бераце на касе.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**




Фота otzovik.com.

Такое масла ў Маладзечне ніколі не выраблялі. Тым не менш, на этыкетках пазначаны менавіта гэты горад.

# Прадпрыемства «Бел-Мол» у Маладзечне няма і не было

## Адкуль нібы маладзечанскія кансервы і масла ў Саратаве?

МАЛАДЗЕЧНА

**На расійскім сайце Расспажыўнагляду днямі з'явілася інфармацыя, што ў крамах Саратава з'явіліся прадукты з так званых прадпрыемстваў-зданяў.**

Прадаюць мясныя кансервы і малочную прадукцыю з прадпрыемства «Бел-Мол». На этыкетцы пазначаны адрас – **Рэспубліка Беларусь, Мінская вобласць, горад Маладзечна, вуліца Нагорная, 7.**

Па гэтым адрасе ў Маладзечне знаходзіцца Маладзечанскі малочны камбінат. Мы патэлефанавалі на камбінат і спыталі пра «Бел-Мол».

*У прыёмнай адказалі, што прадпрыемства з такой назвай тут няма і ніколі не было.*

У сецiве «Бел-Мол» рэкламуе нібы маладзечанскі прадукт – масла дамашняе топленае «Залатая якасць».

На сайце ёсць водгукі пра масла. Напрыклад такі:

«Вельмі часта выпадковыя пакупкі бываюць настолькі ўдалымі, што робяць аднойчы набыты прадукт пастаянным жыхаром сямейнага халадзільніка.

Так у нас здарылася з топленым маслам беларускага вытворцы «Залатая якасць».

Купілі на спробу і настолькі спадабалася, што сталі купляць пастаянна.

Першае, што спадабалася адразу – гэта шкляны слоік. Вельмі патрэбная тара для кансервавання. У такія слоічкі зручна восенню рабіць нарыхтоўкі.

Маса прадукту ў слоіку – 600 грамаў. Тлустасць 99%. Тэрмін прыдатнасці – чатыры месяцы».

І зусім іншы:

«Добры дзень! Працую на Маладзечанскім малочным камбінаце, які знаходзіцца па адрасе: Беларусь, Мінская вобласць, Маладзечна, вуліца Нагорная, 7. Да нас ужо звярталіся пакупнікі, якія купілі масла, на якім указаны наш адрас вытворчасці, але вытворца – ПУП «Бел-Мол».

Па дадзеным адрасе ніколі такога вытворцы зарэгістравана не было – ужо больш за 70 гадоў тут размешчаны Маладзечанскі малочны камбінат (раней – Маладзечанскі гармалзавод).

Нам нават дасылалі фотаздымкі сертыфікатаў аб адпаведнасці, якія з'яўляюцца 100% падробкай. Запомніце – масла ў Беларусі заўсёды вырабляецца па СТБ або па ТУ. Калі пазначана, што масла выраблена па ГОСТу – гэта падробка!

Таксама па тэлефоне, які пазначаны на слоіку, вы не датэлефануецеся – ужо некалькі гадоў міжнародны код горада Маладзечна такі: +375 176, а не +375 1773 (гэта стары код)».

Яшчэ адзін прадукт прадпрыемства прадстаўлены на сайце goodsmatrix.ru – масла салодка-вяршковае «Залатое».

Адрас той жа – Маладзечна, Нагорная, 7. А вось тэлефон з дзіўным для Беларусі кодам – **(495) 796 24 97.**

+495 – код Масквы. Мы спрабавалі датэлефанавацца да вытворцы, але з трубкі ўвесь час гучала «няправільна набраны нумар».

**Аксана ЯРАШОНАК.**

ЛІЧБА НУМАРА

**79**

НА ТАКІМ МЕСЦЫ БЕЛАРУСЬ У СПІСЕ САМЫХ ШЧАСЛІВЫХ КРАІН СВЕТУ. НА ПЕРШЫМ – ФІНЛЯНДЫЯ

ПАВОДЛЕ СУСВЕТНАГА ДАКЛАДУ ААН ПРА ШЧАСЦЕ

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 14.03 | 21.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1349 | **2.1057** |
| Еўра | 2.4108 | **2.3894** |
| Злоты, 10 | 5.6062 | **5.5759** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2578 | **3.2756** |
| Грыўня, 100 | 7.9824 | **7.7467** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 13.03 | 20.03 |
| Еўра | 2.3950/2.4150 | **2.3800/2.3970** |
| Долар ЗША | 2.1300/2.1470 | **2.0980/2.1150** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 13.03 | 20.03 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,99 | **18,99** |
| Куранял-бройлер, 1 кг | 3,50 | **3,40** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,55 | **7,21** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,70 | **4,70** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,15 | **1,20** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,00 | **2,00** |
| Агуркі, 1 кг | 4,90 | **3,90** |
| Баклажан, 1 кг | 7,50 | **6,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,50 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Капуста, 1 кг | 2,69 | **2,50** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Морква, 1 кг | 0,99 | **0,99** |
| Памідоры, 1 кг | 3,50 | **4,50** |
| Перац, 1 кг | 7,50 | **6,95** |
| Радыс, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Салата, 100 г | 1,39 | **0,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Часнок, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,30 | **3,30** |
| Бананы, 1 кг | 2,50 | **2,95** |
| Вінаград, 1 кг | 5,50 | **4,95** |
| Грушы, 1 кг | 2,95 | **2,95** |
| Ківі, 1 кг | 3,90 | **3,80** |
| Лімоны, 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,30 | **3,30** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,45 | **1,45** |
| Грэцкі арэх, ядро, 1 кг | 25,00 | **25,00** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## У лесе пад Астраўцом знайшлі машыну з целам мытніка

**АСТРАВЕЦ**

Мужчыну – сорак гадоў. Ён працаваў начальнікам аддзела мытных аперацый і кантролю мытнага паста на пункце пропуску «Катлоўка» на мяжы з Літвой.

Знік 9 сакавіка. Па словах сваяка, раніцай мужчына адвёў сына ў школу. Больш яго ніхто не бачыў.

Мёртвага мужчыну знайшлі ва ўласным аўтамабілі 11 сакавіка. Машына стаяла ў лесе каля вёскі Міхалішкі. Да выхлапной трубы быў прыкручаны шланг ад пыласоса, які вёў у салон.

Прычыны ўчынку невядомыя. Сваякі кажуць, што праблем у сям'і не было.

**Паводле «Нашай Нівы».**

## На Астравеччыне згарэў аўтамабіль

**АСТРАВЕЦ**

Пра пажар астравецкім выратавальнікам паведамілі каля сямі гадзін вечара 19 сакавіка.

Гарэў аўтамабіль Аўдзі-100 1985 года выпуску. Машына стаяла ў прыватным двары ў вёсцы Сміглі Гудагайскага сельсавета.

У выніку аўтамабіль згарэў. Прычына – парушэнне правілаў бяспекі пры зварцы.

**Паводле сайта МНС.**

## Выратавальнікі праверылі на бяспеку дамы ў вёсцы

**ВІЛЕЙКА**

15 сакавіка ў Даўгінаўскім сельсавеце правялі пасяджэнне выканкама.

Разглядалі вынікі працы за мінулы год і планы на сёлетні.

Пра статыстыку распавёў першы намеснік начальніка Вілейскага РАНС **Анатоль Стрэж**. Калі снег сышоў, а пад ім сухая мінулагодняя трава, пажар можа ўзнікнуць з-за любой памылкі – кінутага акурка, бітага шкла, нагрэтага сонцам, выпальвання сухой травы і бескантрольнага спальвання смецця пры прыборцы.

Наведалі два адрасы, якія знаходзяцца на асаблівым кантролі ў сельвыканкама.

Адна з гаспадыняў не спяшалася адчыняць дзверы. Выглядала заспанай, а ўжо абедзенны час. На стале непрыбраныя чаркі і бутэлька з-пад гарэлкі. Спрабуе апраўдацца перад членамі камісіі і называе адразу некалькі прычын.

Спачатку сказала, што не спала ўсю ноч з-за асабістых перажыванняў, да абеду і змарыла. Пасля аказалася, што частавала работніка, які дапамагаў нарыхтоўваць дровы. А пасля стала ў позу – што хачу, тое і раблю.

Спецыялісты адзначаюць, што ў іншай сітуацыі з гэтым можна было пагадзіцца, але сям'я на ўліку – у сацыяльна небяспечным становішчы. У жанчыны сын-трэцякласнік, які якраз павінны быў вярнуцца са школы.

Камісія знайшла ў доме каля дзясятка неадпаведнасцяў правілам пажарнай бяспекі. Гаспадыня абяцала ўсё выправіць.

Далей завіталі ў шматдзетную сям'ю па суседстве. Тут таксама былі заўвагі. На печцы, якая палілася, ляжалі рэчы.

Падаўжальнік даўно трэба замяніць. У доме завеса цыгарэтнага дыму, а жанчына на руках з немаўлём.

– Мы не імкнёмся пакараць, – кажа Анатоль Стрэж. – Наша задача – знайсці фактары рызыкі, якія могуць прывесці да няшчасцяў.

**Паводле сайта МНС.**

## На вуліцы ў Вілейцы знайшлі труп мужчыны

**ВІЛЕЙКА**

Гэта 41-гадовы жыхар Вілейкі, паведамілі ў Вілейскім РАУС. Цела знайшлі раніцай 12 сакавіка.

Дакладную прычыну ўстановіць экспертыза. Папярэдняя – пераахаладжэнне.

Вілейскія следчыя праводзяць праверку.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Смаргоні ноччу гарэў аўтамабіль

**СМАРГОНЬ**

Паведамленне пра тое, што гарыць аўто на Трактарнай, паступіла 15 сакавіка ў 0:22.

У выніку пашкоджаны маторны адсек, салон, лакафарбавае пакрыццё машыны. Маркуюць, прычына пажару – парушэнне правілаў эксплуатацыі электрасетак і электраабсталявання.

**Паводле сайта МНС.**



Фігурант параніў гаспадара дома касой.

Фота geo-storm.ru

# Мужчына ледзь не засек касой знаёмага

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Маладзечанскія міліцыянеры затрымалі 56-гадовага жыхара вёскі Якавічы Лебедзеўскага сельсавета.**

Фігуранта падазраюць у тым, што ён касой ледзь не засек мужчыну.

Пра здарэнне ў аператыўна-дзяжурную службу Маладзечанскага РАУС паведамілі апоўначы.

Міліцыя выехала на месца здарэння. Медыкі пацярпелага з раненнямі адвезлі ў бальніцу.

Ужо на месцы інцыдэнту праваахоўнікі высветлілі карціну таго, што адбылося.

Каля 23:40 гаспадары дома, 57-гадовы пацярпелы і яго жонка, спалі ў асобных пакоях. Дзверы ў дом не зачынялі, бо чакалі сына.

Падазраваны зайшоў у дом, пасля – у пакой гаспадара і стукнуў яго касой не менш за пяць разоў па розных частках цела.

У выніку ў пацярпелага – колата-рэзаныя раны грудной клеткі, жывата, шыі і рук.

На кліч аб дапамозе прыбегла жонка пацярпелага, якая стукнула зламысніка табурэткай, пасля чаго патэлефанавала ў міліцыю.

Калі затрымлівалі фігуранта, той быў нецвярозы. Чаму гэта зрабіў, патлумачыць не змог.

Цяпер падазраванага заключылі пад варту. За наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання яму пагражае пазбаўленне волі да васьмі гадоў.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Мужчына адрэзаў сячкарняй чатыры пальцы

**АШМЯНЫ**

16 сакавіка каля 15:00 выратавальнікам паведамілі пра заблакаваную ў сячкарні руку мужчыны. Здарэнне адбылося ў вёсцы Варні Ашмянскага раёна.

Работнікі МНС з дапамогай адмысловай прылады вынялі руку палявода і перадалі мужчыну брыгадзе медыкаў.

Пасля агляду пацярпелага шпіталізавалі ў раённую бальніцу з папярэднім дыягназам «траўматычная ампутацыя першага-чацвертага пальцаў левай кісці».

**Паводле сайта МНС.**

## З Сакаўшчынскага вадасховішча дасталі труп мужчыны

**ВАЛОЖЫН**

Загінулага выратавальнікі дасталі на бераг ноччу з 16 на 17 сакавіка.

Пра гэта «Рэгіянальнай газеце» расказала афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

– Сваякі загінулага расказалі, што напярэдадні мужчына плаваў па вадасховішчы на лодцы, – кажа Таццяна Беланог.

Загінулы – 63-гадовы жыхар сталіцы. На лецішча ў Сакаўшчыну, што ў Валожынскім раёне, ён прыехаў у мінулыя выхадныя разам са сваякамі.

Валожынскія следчыя праводзяць праверку здарэння. Папярэдняя прычына – няшчасны выпадак.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## За падман прадпрымальніка асудзілі на дзесяць гадоў

**МАЛАДЗЕЧНА**

18 сакавіка суд Ленінскага раёна сталіцы вынес прыгавор жыхару Маладзечна. Па версіі следства, ён падмануў 35 чалавек, якія марылі пабудаваць загарадны дом з бруса ці зрабіць рамонт на дачы. Пра прысуд паведамляе прэс-служба суда.

На судовай лаве апынуўся прадпрымальнік і кіраўнік фірмы «Росбел-Экадом», які займаўся аптовым гандлем драўнінай і прадукцыяй яе перапрацоўкі.

«Паведамляў грамадзянам загадзя лжывыя звесткі пра намер выканаць свае абавязацельствы па вырабе і ўсталяванні брусавых дамоў і іншых паслуг, якія загадзя не планаваў выконваць», – пазначана ў прысудзе. Да таго ж яго абвінавачвалі ва ўхіленні ад выплаты падаткаў.

У выніку прыгаварылі да дзесяці гадоў у калоніі строгага рэжыму з канфіскацыяй усёй маёмасці. Яшчэ на працягу пяці гадоў яму забаронена займаць пэўныя пасады.

Раней следчыя расказалі, што 39-гадовы жыхар Маладзечна падмануў 35 чалавек, у тым ліку пенсіянераў. Ён прапаноўваў нядорага зрабіць дом з бруса, лазню або гаспадарчыя пабудовы, пракласці электра- і каналізацыйныя сеткі, зрабіць рамонт і іншыя работы на ўчастку.

Па дамове людзі рабілі перадаплату ў 40-50% кошту дома. У асноўным фігурант пастаўляў нязначную частку матэрыялаў, каб хапіла на падмурак – і спыняўся. Грошы, як высветлілася, марнаваў на асабістыя патрэбы і гральныя ўстановы. Страты склалі амаль 250 тысяч рублёў.

**Паводле tut.by.**

## Два забойствы ўжо здарыліся сёлета

**МАЛАДЗЕЧНА**

Паводле аператыўных дадзеных, за два месяцы гэтага года тут зарэгістравалі чатыры асабліва цяжкія і цяжкія злачынствы.

Гэта два забойствы і два нанясенні цяжкіх траўмаў.

Забойствы здарыліся падчас сямейна-бытавых канфліктаў.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

# Юбілеі ў ААТ «Будаўнік» сустракаюць працай



**Ашмянскае таварыства ў сваёй галіне другое ў вобласці па аб'ёмах. Менавіта «Будаўнік» – генпадрадчык Беларускай атамнай электрастанцыі, для якой выконвае шэраг аб'ектаў**

**Сёлета адметны год для вядомай будаўнічай арганізацыі. У жніўні прадпрыемства адзначае 60-годдзе. А ўжо 22 сакавіка 70-годдзе святкуе першы і пакуль адзіны кіраўнік таварыства Аляксандр Сазановіч.**









Кампанія выконвае працу толькі пад ключ. Гэта значыць, што кожны аб'ект яны здаюць цалкам укамплектаваны, прыходзь і карыстайся. Такі падыход засцерагае ад сітуацый, калі заказчык мае заўвагу і не можа знайсці адказнага па канкрэтным пытанні. «Будаўнік» заўсёды бярэ ўсю адказнасць на сябе. Такі падыход ідэальны для кліента. Самім жа будаўнікам неабходна дэталёва пагружацца ў нюансы кожнага заказу. З іншага боку, штатныя работнікі здольныя выканаць сваімі сіламі ўсе патрэбныя працы.

Таму калі ААТ «Будаўнік» здае бальніцу, у ёй гатова ўсё – ад сантэхнікі да спецыялізаванага абсталявання. І гадавальнік для Міністэрства лясной гаспадаркі па шведскай тэхналогіі ў Глыбоцкім раёне, і зона абслугоўвання на пункце пропуску «Каменны Лог» для «Белмытсэрвісу» – для ўсяго трэба дакладна прапрацаваць праектна-каштарысную дакументацыю.

І так адбываецца з самымі нетыповымі і тэхнічна складанымі заказамі. Таму менавіта ашмянская кампанія стала генпадрадчыкам Беларускай атамнай электрастанцыі ў Астравецкім раёне. Будаўнікі ўжо ўзвялі шэраг аб'ектаў на галоўнай будоўлі краіны, з многімі працуюць цяпер.

### Ад АЭС да запраўкі

Працы на АЭС – самыя складаныя для кампаніі. Аднак толькі за 2018 год і пачатак 2019 таварыства здало шэраг складаных будоўляў. Для Астравецкага лясгаса пабудавалі бункеры для шчэпак і плавіння. «Гроднадругчармет» атрымаў пляцоўку для склада металалому.

У Гамзічах Смаргонскага раёна паставілі аўтазаправачную станцыю. Зрабілі капітальны рамонт пераходнай галерэі паміж палiклінікай і аддзяленнем рэабілітацыі для Ашмянскай ЦРБ.

Па вуліцы Барунскай для роднага горада пабудавалі адзін 60-кватэрны дом і адзін 30-кватэрны.

На пляцоўках АЭС працуе 110 спецыялістаў «Будаўніка». За год для атамнага праекта здалі шэраг аб'ектаў – аб'яднаны газавы корпус, сталовую, бамбасховішча, будынак блочнай дызельнай электрастанцыі, помпавыя станцыі, шламаправоды, прыстанцыйны перагрузачны вузел.

– Для ваеннага гарадка на АЭС мы распрацавалі каля 40 аб'ектаў, – расказвае Аляксандр Сазановіч. – Для кожнага трэба падысці індывідуальна. Таму вывучалі і як кінолагі сабак вучаць, і як у сталовай для салдат кашу вараць. Толькі калі зразумееш працэс, зможаш спраектаваць, якім павінны быць будынак.

### Як змянілі Ашмяны

Слава бліскучых будаўнікоў даўно разышлася па ўсёй краіне. Але і пра свой горад ашмянцы не забываюць. За час існавання кампаніі «Будаўнік» узвёў у Ашмянах шэраг шматкватэрных дамоў і будынкаў грамадскага прызначэння.

Усе жылыя дамы раёнаў Заходні і па вуліцы Барунскай паставіў «Будаўнік». На рахунку будынкі суда, пракуратуры, некалькіх банкаў, цэнтральнай раённай бальніцы, гандлёвага цэнтра «Заходні» і іншыя.

### Уся сіла ў калектыве

Усе бліскучыя дасягненні кампаніі – заслуга і калектыву, і кіраўніка. Цяпер у таварыстве працуе 577 чалавек. У сезон колькасць работнікаў дасягае 730. Сярэдні заробак па прадпрыемстве за люты – 820 рублёў.

З ліку працуючага насельніцтва райцэнтра прыкладна кожны пяты – работнік ААТ «Будаўнік». Гэта вельмі прэстыжнае месца, у якім добры работнік годна зарабляе і мае гарантаваны сацыяльны пакет. Таму трапляюць сюды толькі найлепшыя, дасведчаныя і перспектыўныя кадры.

У калектыве пастаянна праводзяць дадатковую работу для развіцця творчых здольнасцяў, спартыўныя спаборніцтвы, дапамагаюць моладзі. Насычаны час паза работай – прыемны бонус, які атрымліваюць усе работнікі. За крэатыўным падыходам да мерапрыемстваў для калектыву сочыць намеснік дырэктара па ідэалогіі **Аксана Юшко**.

У таварыства ёсць свая база адпачынку. Ёй карыстаюцца для святаў і ўрачыстасцяў. 60-годдзе кампаніі адзначаць менавіта там. Работнікі абавязкова займаюцца спортам, могуць пагуляць па лесе і парыбачыць. «Будаўнік» клапоціцца, каб работнікі арганізацыі былі задаволеныя і працай, і жыццём. Таму што для такіх спецыялістаў усё пад сілу! •



### 30 год нязменны капітан

Наладзіць працу вялікай кампаніі, якая не баіцца самых амбітных задач і, самае галоўнае, годна іх выконвае, – для гэтага трэба не толькі мноства ведаў, але і талент кіраўніка. 22 сакавіка ўдзячныя калегі і партнёры павіншуюць Аляксандра Сазановіча з 70-годдзем.

За сваю працоўную дзейнасць ён дасягнуў усіх магчымых вяршынь. Яго ўганароўвалі лістамі падзякі і граматамі Ашмянскі райвыканкам, аблвыканкам, іншыя ўстановы. Ён увайшоў у Кнігу славы Гродзеншчыны, а ў 2014 стаў ганаровым грамадзянінам Ашмянаў. Мяркуе, што надышоў час сысці на заслужаны адпачынак, таму падрыхтаваў у пераемнікі цяперашняга дырэктара ДБУ **Дзмітрыя Варно** і ўзгадніў прызначэнне з выканаўчай уладай.

Сазановіч будзе дапамагаць маладому кіраўніку акрэпнуць, кантраляваць эканоміку, таму застаецца ў назіральным савеце арганізацыі.

Увага Аляксандра Аляксеевіча патрэбна і сям'і. Яго сын **Аляксей** працуе майстрам на будаўніцтве. Сазановіч багаты на ўнукаў і нават мае праўнука, якому хутка споўніцца паўгода.

### Такі тэмп па сілах не кожнаму

Кожную раніцу Аляксандр Аляксеевіч прачынаецца а 6 гадзіне раніцы і пачынае дзень з інтэнсіўнай зарадкі.

Да вялікіх нагрузак Сазановіча прывучылі з самага дзяцінства. Ён нарадзіўся ў вёсцы Селішчы Навагрудскага раёна. У сям'і былі старэйшыя сёстры **Зіна** і **Галя**, якія вельмі дапамагалі брату стаць такім, якім ён стаў. Для сялянскай сям'і пасляваенныя часы былі вельмі няпросты. У сакавіку дзеці шукалі ў полі перамерзлую бульбу. Мама яе адмочвала і на раніцу пякла дзецям бліны. У шэсць раніцы дзеці снедалі, каб за сем кіламетраў паспець дайсці да школы.

Пасля ўрокаў чакала цяжкая праца па гаспадарцы. Трэба было пасвіць кароў, даглядаць жывёлу, даводзілася і плаваць, секчы, рамантаваць. Так Аляксандр і пазнаёміўся ў будаўнічай працай.

Закончыў гідратэхнічны факультэт Горацкай сельгасакадэміі. Кіраваў меліярацыйнай арганізацыяй, а пасля яго рэкамендавалі ўзначаліць ТАА «Будаўнік». Дзе ён і запальвае прадпрыемства на новыя дасягненні. •

**Віншуем Аляксандра Аляксеевіча САЗАНОВІЧА з юбілеем!**

**Моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту і безліч прыемных уражанняў!**

● КАЛЯНДАР

**22 САКАВІКА**

**1864.** У Вільні на Лукішскім пляцы павешаны **Кастусь Каліноўскі**, кіраўнік нацыянальна-вызваленчага паўстання. Магіла знаходзілася паблізу сённяшняй вежы Гедыміна.

**1882.** Нарадзіўся **Эдвард (Эдзюк) Будзька** (мястэчка Будслаў, цяпер Мядзельскі раён), паэт, публіцыст, выдавец, грамадскі дзеяч, заснавальнік кааператыўнага руху. У 1918 годзе быў адным з арганізатараў Будслаўскай беларускай гімназіі. Памёр у 1958 годзе ў ЗША.

**23 САКАВІКА**

**1865.** Нарадзіўся **Стары Улас** (сапр. Уладзіслаў Сівы-Сівіцкі; г. Валожын), паэт. Асірацеў у 9 гадоў, пайшоў працаваць памочнікам кухара да графа Тышкевіча. Жыў у Варнянах (цяпер Астравецкі раён), у Вільні. Дэбютаваў вершамі ў 1907 годзе ў «Нашай ніве». Змяшчаў іх і вершаваныя апавяданні ў беларускіх дакастрычніцкіх і заходнебеларускіх календарах. Выступаў і як публіцыст. Памёр 30 верасня 1939 года. Цікава пачытаць яго нататкі: «Каля нас ходзяць чуткі, што сёлета будзе канец свету. Кажуць, што будзе ісці нейкая «камета з хвастом», каторая зачэпіць нашу зямлю і сатрэ яе ў парашок. Людзі старыя так кажуць: «Усім стала нягодна, цяжка жыць – хіба прыйдзе ўжо нейкі канец!» І праўда: няма дабра на свеце. Пайшла нейкая нянавісць: адзін аднаго ў лыжцы вады ўтапіў бы, адзін аднаго паляць, забіваюць; людзі парабіліся горш звяроў. Даўней гэтага не бывала, а цяпер дзень у дзень пачуеш: то на дарозе чалавека затукалі, то на полі, то сам на сябе рукі налажыў. І канца няма – ажно неяк страшна робіцца...» Гэта за 1910 год.

**1918.** Рада Беларускай Народнай Рэспублікі абвясціла Гродзеншчыну беларускай тэрыторыяй.

**24 САКАВІКА**

**1794.** 225 гадоў назад пачалося вызваленчае паўстанне на чале з **Тадэвушам Касцюшкам.**

**25 САКАВІКА**

1928. Нарадзіўся **Аляксандр Дзікі** (в. Кузьмічы, цяпер Мядзельскі раён), удзельнік паўстанцкай моладзевай арганізацыі Саюз Беларускіх Патрыётаў, вязень савецкіх канцлагераў.

**28 САКАВІКА**

**1928.** Нарадзіўся **Эдуард Сташкевіч** (в. Дэгісі, цяпер Смаргонскі раён), удзельнік антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху ў Смаргоні ў 1949-1950 гг.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Як народная артыстка і салістка тэатра оперы выступала ў рэгіёне

**Святлана Данілюк нарадзілася 25 верасня 1939 года ў Кіеве. Дзяўчынку гадавала маці, якая працавала на мясцовым заводзе па вытворчасці гумы. Бацька, слесар па прафесіі, у 1941 годзе загінуў на фронце.**

МАЛАДЗЕЧНА

Скончыўшы сямігодку, Святлана паступіла ў Кіеўскі кінатэхнікум на аддзяленне абслугоўвання і эксплуатацыі кінаўстановак. Удзельнічала ў самадзейнасці. А ў 18 год, не ведаючы нотнай граматы, прыйшла паступаць у Кіеўскую кансерваторыю. Камісію зачараваў прыгожы голас абітурыенткі, і яе прынялі на вячэрняе аддзяленне.

Стыпендыю Святлана не атрымлівала, падпрацоўвала лабаранткай у кансерваторскай студыі гуказапісу. Калі ж на апошнім курсе навучання студэнтку перавялі на дзённае аддзяленне, яна стала атрымліваць стыпендыю. Святлана трапіла ў клас **Зоі Гайдай**, народнай артысткі СССР, і ёй была абавязаная сваімі поспехамі.

У 1963 годзе на дзяржэкзамене ў кансерваторыі быў галоўны дырыжор Пермскага опернага тэатра. Ён запрасіў спявачку да сябе. Тут яна адпрацавала тры гады.

У 1965 годзе **Святлана Данілюк** стала лаўрэатам конкурсу вакалістаў імя Глінкі. Атрымала другую прэмію. А ў наступным годзе заваявала дыплом на Міжнародным конкурсе Чайкоўскага.



Святлана Данілюк падчас канцэрта ў Маладзечне.

## Ад 1966 года спявала ў Беларусі

Ад 1966 года Святлана Данілюк – салістка Дзяржаўнага тэатра оперы і балета Беларусі. 20 год свайго творчага жыцця яна прысвяціла гэтаму тэатру. З яго сцэны гучаў моцны і прыгожы голас – каларатурнае мецца-сапрана з поўнымі трыма актавамі. Калі сказаць прасцей, маючы нізкі грудны голас, спявачка магла з лёгкасцю «звінець».

19 партый на сцэне Беларускага опернага. Мінск запомніў яе як адну з самых яркіх Амнерыс і Кармэн. А сама спявачка лічыла лепшымі партыі Любашы з «Царскай нявесты» і Марыны Мнішак з «Барыса Гадунова».

Святлана Данілюк была нацыянальнай гераіняй у операх беларускіх кампазітараў Юрыя Семянякі, Дзмітрыя Смольскага, Яўгена Цікоцкага.

Яна любіла раманс і з канцэртамі аб'ездзіла ці не палову свету. Багатым вакальным досведам дзялілася з Дзмітрыем Хварастоўскім і Марыяй Гулегінай.

## Нешта пайшло не так

Невядома, што здарылася, але нешта пайшло не так. Давялося развесціся з мужам, інжынерам-праекціроўшчыкам электрастанцый **Віктарам Федасеевым**. Падтрымка была толькі ад сына **Максіма** і ўнучак **Маі** і **Асі**.

Спектаклі з удзелам Данілюк здымаліся з рэпертуару. Ёй забаранілі гастраляваць. Сталі запрашаць на пробы новых спявачак з мецца-сапрана. Несправядліва аднесліся да яе таленту. А яна ж стажыравалася ў тэатры Ла Скала ў Мілане і магла быць першакласным вакальным педагогам. Але выкладаць у кансерваторыю яе не запрашалі. Казалі, што ў спявачкі складаны характар.

Па словах сына Максіма, яна не любіла кампрамісаў у мастацтве, не даравала глупства і непрафесіяналізму. Заўсёды гаварыла праўду.

## А раптам тут сядзіць маленькі Моцарт?

У 1986 годзе народная артыстка СССР салістка дзяржфілармоніі Святлана Данілюк увайшла ў склад канцэртна-лектарскага бюро.

«Цяпер працую сельскай настаўніцай. Сею разумнае, добрае, вечнае», – казала спявачка.

Яна любіла сваю новую працу. Гаварыла, што калі выходзіць на сцэну якога-небудзь райцэнтра, то хто ведае: магчыма, тут сядзіць маленькі Моцарт і менавіта гэта сустрэча абудзіць яго. Значыць, трэба ехаць туды і выходзіць на гэту сцэну.

## Як спявачка выступала ў Вілейцы і Маладзечне

Больш за 20 год таму Святлана Данілюк выступала ў Доме культуры чыгуначнікаў у Маладзечне. Тады я і зрабіў яе здымак. А перш чым прыехаць у наш горад, з канцэртам-лекцыяй яна была на Вілейшчыне.

У той вечар у Маладзечне гучалі арыі з опер, рамансы і хабанэра – кубінскі народны танец з оперы Жоржа Бізэ «Кармэн».

Я прадставіўся, сказаў, што выкладаю цымбалы, падзякаваў за выступленне і папрасіў дазволу сфатаграфаваць. Сёння мне вельмі дарагі гэты здымак

8 чэрвеня 2003 года спявачкі не стала. Ёй было 63 гады. Пахавалі Святлану Данілюк на Усходніх могілках Мінска, побач з пісьменнікам Васілём Быкавым.

Музыкі, спевакі, літаратары і мастакі пакідаюць нас, але памяць пра іх павінна быць вечнай. Як тое высокае мастацтва, якое яны стварылі для людзей.

**Юрась ЦЕРАБУН.**
**Фота аўтара.**



# тэлетыдзень

**25-31 сакавіка**

Перадрук праграмы забаронены.
У праграме магчымыя змяненні.

**28 каналаў ад «Рэгіянальнай газеты»**

● ПАКУЛЬ ІДЗЕ РЭКЛАМА

# Казачная прынцэса

## Вашы адносіны да рэальнасці і выдумкі

**На гэтай карцінцы нарысаваная прынцэса. Вам трэба прарысаваць дэталі яе твару і адзення, а таксама стварыць фон, на якім яна будзе глядзецца.**



З кнігі «Сто графічных тэстаў».

### Ключ да тэста

Звярніце ўвагу на **ФІГУРУ ПРЫНЦЭСЫ,** гэта самая важная дэталь тэста. Па тым, як старанна вы прарысавалі рысы знешнасці дзяўчыны, уключаючы яе твар, валасы і адзенне, можна меркаваць аб вашай фантазіі.

**1. Калі вы ВЫДЗЕЛІЛІ ЎСЕ ПАТРЭБНЫЯ ДЭТАЛІ,** нарысаваўшы прынцэсе твар, упрыгожыўшы яе сукенку і абутак, але не дадаўшы да наяўнага сілуэту нічога новага, ніякіх празмернасцяў, то гэта гаворыць пра тое, што вы гарманічна развіты чалавек, у вас багатае ўяўленне, якое дапамагае вам у жыцці. **Калі пры гэтым асаблівую ўвага вы надалі ТВАРУ ДЗЯЎЧЫНЫ,** то вас можна назваць творчай асобай.

**2. Калі вы не проста прарысавалі ўсе неабходныя дэталі знешнасці прынцэсы, але і ДАДАЛІ НЕШТА СВАЁ,** напрыклад, дарысавалі ёй **КАРОНУ ЦІ ШЛЕЙФ,** то гэта гаворыць пра тое, што фантазія адыгрывае вялікую ролю ў вашым жыцці. Вы нярэдка блытаеце выдумку з праўдай, але не таму, што вы паталагічны лгун, проста вам цяжка адмежаваць адно ад другога.



**3. Калі вы ВЫПРАВІЛІ РЫСУНАК, скажам, НАДТАЧЫЛІ ПРЫНЦЭСЕ СУКЕНКУ ЦІ НАРЫСАВАЛІ ЁЙ НОВУЮ ПРЫЧОСКУ,** г.зн. пастараліся надаць дзяўчыне выгляд казачнай прынцэсы (у вашым разуменні), то гэта гаворыць пра тое, што ваш розум выразна размяжоўвае рэальнасць і выдумку. Вы ніколі не станеце ахвяраю сваёй фантазіі, вы шчыра не разумееце, як можна аддавацца марам, нічога не робячы. Для вас выдумка – гэта казка, а казка – гэта прыемнае баўленне часу, не больш. Як гаворыцца, справе час, пацесе – гадзіну.

**4. Калі вы ЛЕДЗЬ ПАЗНАЧЫЛІ СІЛУЭТ ПРЫНЦЭСЫ, НЕ ПРАРЫСОЎВАЮЧЫ ДЭТАЛЯЎ,** то гэта гаворыць аб вашай боязі аддацца ва ўладу фантазіі. Вы лічыце сябе чалавекам стрыманым, практыкам і нават прагматыкам, аднак на самой справе гэта не так. Калі-небудзь ваша падсвядомасць пакажа вам, на што яна здольная!

**5. Звярніце ўвагу на ФОН.** Калі вы нарысавалі прынцэсу, стоячы ў праёме дзвярэй, то гэта гаворыць пра тое, што вы гатовыя ў любы момант упусціць фантазію ў сваё жыццё.

**6. Калі ваша прынцэса НАРЫСАВАНАЯ НА КАРЦІНЕ,** то гэта значыць, што вы сочыце за тым, каб выдумка ў вашым жыцці займала строга вызначанае месца і не выходзіла за адведзеныя ёй рамкі.

## 8 канал

ВОСЬМОЙ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 25 МАРТА**

**7.00, 15.55, 19.00, 21.05, 0.45** «Погода».
**7.05, 16.05** «Мульт-парад».
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«МИМИНО».**
**9.00** Д/с «Родовые проклятья».
**9.30, 19.05** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** Х/ф **«ПЛОХОЙ, ХОРОШИЙ, ЗЛОЙ».**
**13.30, 20.00** Т/с **«СМЕРТЕЛЬНОЕ ОРУЖИЕ».**
**14.15** Х/ф **«БЕЛЛЬ И СЕБАСТЬЯН».**
**16.30** Х/ф **«ЧУДО НА ГУДЗОНЕ».**
**18.00** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**19.50** «Аналитический прогноз с Валерием Полховским».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ЗАБЫТЫЙ».**

**ВТОРНИК, 26 МАРТА**

**7.00, 15.50, 18.10, 21.10, 0.35** «Погода».
**7.05, 16.00** «Мульт-парад».
**7.25, 15.55** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«ВОЛНА».**
**9.10** Д/с «Дорога в школу».
**9.40, 18.15** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** «Мой любимый питомец».
**11.00** Х/ф **«СКОЛЬЖЕНИЕ».**
**12.50** Т/с **«СМЕРТЕЛЬНОЕ ОРУЖИЕ».**
**13.35** Х/ф **«ЗАТЕРЯННЫЙ ГОРОД».**
**16.30** Д/с «Неизвестная планета».
**17.20** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**19.15** «Вечерний квартал-95».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ВИНОВНЫЙ».**
**22.40** Х/ф **«СХВАТКА».**

**СРЕДА, 27 МАРТА**

**7.00, 15.55, 19.00, 21.05, 23.45** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«ПОЛОСАТЫЙ РЕЙС».**
**9.05, 15.30** Д/с «Обучите моего питомца».
**9.30, 19.05** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.20** «Аналитический прогноз с Валерием Полховским».
**10.30** «Синьцзян».
**11.00** Х/ф **«СХВАТКА».**
**13.00** Д/с «Ген высоты».
**13.45** Х/ф **«РОКОВЫЕ КРАСОТКИ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.30** Х/ф **«ГОЛУБАЯ КРОВЬ».**
**18.00** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**20.00** Т/с **«СМЕРТЕЛЬНОЕ ОРУЖИЕ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ДЕВУШКА С ТАТУИРОВКОЙ ДРАКОНА».**

**ЧЕТВЕРГ, 28 МАРТА**

**7.00, 15.55, 19.00, 21.00, 1.05** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«СТАРИКИ-РАЗБОЙНИКИ».**
**9.00, 15.25** Д/с «Путешественник».
**9.30, 19.05** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** «Рисуя Китай».
**11.00** Х/ф **«РЫЦАРЬ ДНЯ».**
**13.00, 20.05** Т/с **«СМЕРТЕЛЬНОЕ ОРУЖИЕ».**
**13.45** Х/ф **«МАЛЕНЬКАЯ МИСС СЧАСТЬЕ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.30** «Мой любимый питомец».
**17.00** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**18.40** «Аналитический прогноз с Валерием Полховским».
**18.50** «Фешн is my профешн».
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«ЗАПАХ ЖЕНЩИНЫ».**
**23.40** Х/ф **«НОЧНОЙ РЕЙС».**

**ПЯТНИЦА, 29 МАРТА**

**7.00, 15.55, 18.55, 21.05, 1.05** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«ПРИЛИЧНЫЕ ЛЮДИ».**
**9.00, 16.30** Д/с «Путешествие по городам с историей».
**9.30, 19.00** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** Мультфильмы.
**10.50** Х/ф **«МОЙ ЛАСКОВЫЙ И НЕЖНЫЙ ЗВЕРЬ».**
**12.30, 20.00** Т/с **«СМЕРТЕЛЬНОЕ ОРУЖИЕ».**
**13.20** Х/ф **«ЗАПАХ ЖЕНЩИНЫ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**17.00** «Синьцзян».
**17.30** «Мой любимый питомец».
**18.00** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** «Вечерний квартал-95».
**22.50** «Герои комиксов на экране»: «Люди Х».

**СУББОТА, 30 МАРТА**

**7.00, 18.55, 21.15, 1.30** «Погода».
**7.05** Мультфильмы «Барашек Шон».
**7.15** Д/с «Неизвестная планета земля».
**8.00** Мультфильмы «Три богатыря «.
**9.10** «Утрямдия».
**9.15** Х/ф **«ЛЮДИ Х».**
**11.35** Т/с **«БЕЗ СРОКА ДАВНОСТИ».**
**13.10** Х/ф **«ПЕРЕГОН».**
**15.35** «Отвечайка».
**15.40** «Смотрим всей семьей»: «Коты аристократы».
**16.55** Х/ф **«БЕЛЛЬ И СЕБАСТЬЯН. ПРИКЛЮЧЕНИЯ ПРОДОЛЖАЮТСЯ».**
**18.40** «Друзья дедушки Марко».
**19.00** Х/ф **«ВЕТРЕНАЯ РЕКА».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.20** Х/ф **«МИР ЮРСКОГО ПЕРИОДА».**
**23.30** Х/ф **«РЫЦАРЬ ДНЯ».**

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 31 МАРТА**

**7.00, 15.40, 19.15, 21.05, 1.00** «Погода».
**7.05** Мультфильмы «Барашек Шон».
**7.15** Д/с «Неизвестная планета».
**8.15** Мультфильмы «Принцесса Египта».
**9.25** «Утрямдия».
**9.30** «Мой любимый питомец».
**10.00** «Синьцзян».
**10.30** «Вечерний квартал-95».
**12.15** Х/ф **«МУЖЧИНЫ В ГОРОДЕ».**
**15.45** «Смотрим всей семьей»: «Новая сказка».
**17.10** Д/с «Династия».
**18.10** «Отвечайка».
**18.15** «Друзья дедушки Марко».
**18.30** Т/с **«КАСЛ».**
**19.20** Х/ф **«ПЕЧАЛЬНАЯ ЛУНА».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«АФЕРИСТЫ».**
**22.40** Х/ф **«ПОКРОВСКИЕ ВОРОТА».**

## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 25 МАРТА**

**6.15** Песня на завтрак.
**6.30** Х/ф **«ДОМИК В СЕРДЦЕ».**
**7.55** Х/ф **«ЧЕРНАЯ МОЛНИЯ».**
**10.00** Мая Радзіма.
**10.35, 15.15, 22.20** Мажорный лад.
**13.00** Х/ф **«ЛЮБОВЬ ПРЕТ-А-ПОРТЕ».**
**15.00, 18.00** Новости БЖД.
**17.40** Свет души.
**18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.20** Будьте здоровы.
**20.20** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИЦЫ».**

**ВТОРНИК, 26 МАРТА**

**5.30, 7.15** Песня на завтрак.
**6.10, 7.50, 8.15, 18.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.20** Х/ф **«КРЫСИНЫЕ БЕГА».**
**10.50** Х/ф **«ЛЕГОК НА ПОМИНЕ».**
**12.30** Х/ф **«ТОЛСТЯК НА РИНГЕ».**
**13.25** Х/ф **«МОШЕННИКИ».**
**15.00** Х/ф **«ШЕФ 2012».**
**16.50** Х/ф **«С ЛЮБОВЬЮ РОЗИ».**
**17.35, 22.20** Мажорный лад.
**19.20** Спортлайф.
**20.20** Х/ф **«УРОКИ ВЫЖИВАНИЯ».**

**СРЕДА, 27 МАРТА**

**6.05, 7.15, 9.40** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 17.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.15** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИЦЫ».**
**10.35** Х/ф **«ТОЛСТЯК НА РИНГЕ».**
**13.50** Х/ф **«ЧЕРНАЯ МОЛНИЯ».**
**15.50, 19.15, 22.20** Мажорный лад.
**16.10** Х/ф **«ДОМИК В СЕРДЦЕ».**
**20.30** Музыкальная открытка.

**ЧЕТВЕРГ, 28 МАРТА**

**6.40, 7.15, 8.15** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.40** Смайлик.
**9.10, 14.45** Х/ф **«С ЛЮБОВЬЮ РОЗИ».**
**11.05** Х/ф **«ЧЕРНАЯ МОЛНИЯ».**
**16.30, 22.20** Мажорный лад.
**19.20** Спортлайф.
**20.20** Х/ф **«БОЛЬШЕ ЧЕМ ДРУГ».**

**ПЯТНИЦА, 29 МАРТА**

**5.20, 7.20, 8.20** Песня на завтрак.
**6.50, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00** Новости: время местное.
**10.00** Х/ф **«БОЛЬШЕ ЧЕМ ДРУГ!».**
**11.55** Х/ф **«ЧЕРНАЯ МОЛНИЯ».**
**13.10** Х/ф **«С ЛЮБОВЬЮ РОЗИ».**
**15.00** Х/ф **«8 ПЕРВЫХ СВИДАНИЙ».**
**16.10, 19.30, 22.30** Мажорный лад.
**19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**20.30** Музыкальная открытка.

**СУББОТА, 30 МАРТА**

**6.30, 8.40** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.30, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**7.30** Спортлайф.
**9.40** Х/ф **«ПОВЕЛИТЕЛИ СНОВ».**
**12.00** Х/ф **«ДЖУНГЛИ».**
**14.40** Х/ф **«РИМСКИЕ СВИДАНИЯ».**
**16.15, 21.10** Новости БЖД.
**19.30** Будьте здоровы.
**20.30** Желаем вам.
**22.30** Мажорный лад.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 31 МАРТА**

**6.30** Х/ф **«ЧЕРНАЯ МОЛНИЯ».**
**7.50** Х/ф **«СУПЕРНЯНЬ».**
**9.00** Х/ф **«КУХНЯ В ПАРИЖЕ».**
**11.00** Х/ф **«СОКРОВИЩА О.К.».**
**12.55** Х/ф **«ШЕФ».**
**14.35** Х/ф **«МОШЕННИКИ».**
**16.10** Х/ф **«ИМЯ».**
**17.55** Х/ф **«ДОМИК В СЕРДЦЕ».**
**19.30** Х/ф **«МАЖОРНЫЙ ЛАД».**
**20.20** Х/ф **«ЭВОЛЮЦИЯ».**
**22.20** Мажорный лад.

# Як жыве ў Маладзечне 100-гадовая ўраджэнка Вілейшчыны

ВІЛЕЙКА
МАЛАДЗЕЧНА

**«Як я малада ў матулькі жыла, як вішанька у садочку цвіла, цвіла, цвіла да пацвітывала, з кавалерамі да пагулівала», спявае Вера Севярын, якая 19 сакавіка адзначала дзень нараджэння. Ёй споўнілася 100 гадоў.**

Вера Севярын – у дзявоцтве Слуцкая – нарадзілася 19 сакавіка 1919 года ў Каралеўцах, што на Вілейшчыне. У яе маці, Зінаіды, было 12 дзяцей, але сямёра з іх памерлі ў маленстве. Вера нарадзілася вельмі слабая, амаль штодзень яе насілі ў царкву ў Іжу. І дзяўчынка выжыла.

– Мы часам кажам: «Мама, гэта твае браты і сёстры, якія памерлі, аддалі табе свае жыцці», – дзеліцца дачка гераіні **Раіса Гарбунова**. – Мо, дзеці памiралі, бо дзед быў старэйшы за бабулю на 12 год. І час цяжкі быў.

Вера скончыла чатыры класы царкоўнай школы ў Каралеўцах. Ад 17 гадоў ездзіла на заробкі ў Латвію – працавала даяркай.

### За шлюб у царкве мужа звольнілі

З будучым мужам **Іосіфам Севярынам** Вера пазнаёмілася на танцах – так званых «вечарушках». Іосіф прыехаў да сваёй цёткі. Праз пару гадоў пасля знаёмства, у 1940-м, ажаніліся. Раіса ўзгадвае, тады бацька працаваў прадаўцом у лаўцы. З маці пабраўся шлюбам у Іжы ў царкве. Дык за тое, што павянчаўся, яго звольнілі на другі дзень. Маладыя пераехалі ў вёску Золькі.

Падчас вайны Вера жыла ў Зольках са свёкрам і мачахай мужа, з яго старэйшым братам і сям'ёй брата. Дзевяць чалавек у адной хаце. Іосіф ваяваў на Першым беларускім фронце.

– Памятаю, як да мужа падчас вайны ездзіла на счапленні вагонаў, – узгадвае Вера. – Не ведаю, як даехала, напэўна, бог вёз.

### Муж Веры быў у палоне

Прызваны ў пачатку Другой сусветнай вайны ў польскую армію, Іосіф трапіў у нямецкі палон у Сувалкі – горад на тэрыторыі сучаснай Польшчы. Прабыў там 14 тыдняў, потым уцёк з **Іосіфам Аненкам** з суседняй вёскі, які таксама быў у палоне. Але муж Веры так аслабеў, што дайшоў толькі да Вільні.

– У палоне жылі на адкрытай мясцовасці, у гразі, голадзе і холадзе, усе былі ў вошах. Бацька ўспамінаў, як немцы гналі на працу і білі бізуном. Таварыш яго дайшоў да вёскі, сказаў бацьку Іосіфа **Івану**, што сын сам дайсці не можа. Дык той прывёз яго на кані. А там да нас было каля 80 кіламетраў, – кажа Раіса.

Суразмоўцы ўзгадваюць такі выпадак. Бацька Іосіфа рамантаваў боты, для гэтага нацягваў іх на капыл – кавалак дрэва ў форме ступні, на якім шавец робіць абутак. Калі Іосіф прыйшоў з вайны, прынёс старэйшаму сыну батон, падобны на сайку. А той не зразумеў, што гэта такое, падбег да дзеда і кажа «Дзед, дзед, тут табе тата капыл прывёз».

### Пра бацьку пісалі ў газетах

Пасля вайны пабудавалі асобны дом. Усё жыццё Вера пражыла ў Зольках. Працавала ў калгасе і стала заслужаным калгаснікам, займалася гаспадаркай, гадавала траіх дзяцей – дачку і двух сыноў, **Міхаіла** і **Яўгена**.

Іосіф быў старшынёй калгаса «Чырвоная зорка» 13 гадоў. Потым працаваў загадчыкам фермы, брыгадзірам калгаса імя Кірава, які аб'яднаўся з «Чырвонай зоркай».

– Бацьку маглі не бачыць днямі. Раніцай падымаўся і ішоў працаваць. Бачылі яго, як «Красна сонейка». Тата быў харошы і сумленны чалавек. Пра яго і ў газетах пісалі. Прыгожа пісаў – ні адзін з сыноў не мог падрабіць почырк, калі хацеў паправіць заўвагу са школы, – смяецца Раіса. – Маці таксама заўжды працавала. У вёсцы ж трэба і скаціну пакарміць – а ў нас былі і куры, і свінні, , і агарод дагледзець, і траву пакасіць.

### Святкавалі дні нараджэння ў адзін дзень

У 1974 годзе Вера выйшла на пенсію. У яе шэсць унукаў і восем праўнукаў. Апошнім часам жанчына жыве ў Маладзечне ў дачкі, у Золькі яе возяць толькі летам.

Наша гераіня – не адзіная доўгажыхарка ў сям'і. Верын бацька, **Іван**, які жыў у Каралеўцах, дажыў да 95 год і памёр ад старасці. Сястры **Надзеі** не стала ў такім жа ўзросце. А вось муж Іосіф памёр ад анкалогіі ў 81 год.

Па словах Раісы, раней у вёсцы было прыкладна 40 хат, цяпер зімой занятыя менш за дзесяць. Штогод насельніцтва Золек змяншаецца. Доўгажыхароў амаль няма, толькі ў другім канцы вёскі ёсць жанчына, якой 90 год. І ўсё. «Карацей кажучы, мама ў нас «Аленькі цвяточак», смяецца Раіса.

– Раней весялей было. Выходзіш на вуліцу – дзяўчаты сядзяць, спяваюць. А цяпер сяджу, гляджу тэлевізар калі-нікалі. Перад сном, калі ўзгадваю ўсё, думаю, мо, пакрыўдзіла каго з блізкіх, цiск падымаецца адразу, – дзеліцца Вера.

У дзень нараджэння ўнукі тэлефанавалі ёй з Брусэля, Германіі, Наваполацка.

– Бацька, маці і мой першы муж нарадзіліся ў адзін дзень – 19 сакавіка. Таму заўжды мамін дзень нараджэння спраўляем. І ў вёсцы, і дома, традыцыя захавалася. Там, дзе мама, заўжды шмат людзей, – кажа Раіса.

**Таццяна КАСЬЯН.**



Фота Таццяны КАСЬЯН.

19 сакавіка Веры Севярын споўнілася 100 гадоў.



Фота з архіва Раісы ГАРБУНОВАЙ.

З сяброўкамі з Каралеўцаў. Вера Севярын у ніжнім радзе злева.

# Калекцыяную гісторыю беларускага мора

**Другі значок, што звязаны з падзеямі ваеннай гісторыі, – квадратнай формы, мае зялёна-чырвона-белую афарбоўку.**

МЯДЗЕЛ

*Заканчэнне. Пачатак у №№10, 11.*

Аўтамат Калашнікава, савецкая зорка і партызанская шапка з чырвонай палоскай звязвае такі знак адрознення з ваеннымі дзеяннямі часоў Другой сусветнай вайны. Як адзначалася раней, усё досыць неадназначна і фактычна мясцовыя партызаны вялікага гераізму ў змаганні з нямецкімі акупацыйнымі войскамі не праявілі.

Таму значок лепей звязваць з агульнымі сіламі, у тым ліку і партызанскімі атрадамі, якія змагаліся супраць нямецкай акупацыі і на карысць мясцовага насельніцтва. Яшчэ не адно пакаленне будзе пераасэнсоўваць падзеі апошняй сусветнай вайны на тэрыторыі нашай Бацькаўшчыны. Этап найноўшай гісторыі на сёння – развянчанне міфаў, звязаных з Вялікай Айчыннай вайной, што будзе паказваць на рэальны стан рэчаў у тыя страшныя ваенныя часы.

Значкі і падрабязны аналіз выяў на іх паказваюць на савецкія гістарычныя міфы пра агульны моцны ўздым беларускіх земляў у барацьбе з акупацыяй роднага краю войскамі вермахта. Натуральна, змаганне было, але падзеі былі надзвычай складаныя і неадназначныя, а з гэтага вынікае, што сёння трэба вельмі асцярожна займацца інтэрпрэтацыяй фактаў і не паўтараць савецкіх ідэалагічных штампаў.

### Рыбацкія вёскі адваявалі сваё

Нарачанскі край не абмінулі падзеі паўстанняў 1794 і 1863 гадоў, як і падзеі Першай сусветнай вайны і савецка-польскага канфлікту. Прычым у часы Першай сусветнай войскі імперскай Расіі ў сакавіку 1916 года праводзілі нарачанскую наступальную аперацыю, якая ў некаторых гістарычных крыніцах мае назву «Нарачанская бойня». Назва можа сведчыць пра вялікую колькасць забітых жаўнераў падчас ваеннай аперацыі: больш за 110 тысяч з абодвух бакоў. Менавіта падчас гэтых ваенных падзей немцы чарговы раз прымянілі хімічную зброю.

Цікавай старонкай у гісторыі жыхароў Нарачанскага краю з'яўляюцца хваляванні мясцовага насельніцтва ў 1936 годзе, калі новая польская ўлада вырашыла нацыяналізаваць возера, з якога карміліся ўсе навакольныя вёскі. У выніку пратэстаў жыхароў новай уладзе прыйшлося лічыцца з рыбацкімі вёскамі і прызнаваць іх права лавіць рыбу на возеры ў неабмежаванай колькасці. Удзельнічала ў забастоўках і бунтах каля пяці тысяч чалавек, яны дзейнічалі супольна, таму і перамаглі.

Адбываліся на гэтай тэрыторыі і рэпрэсіі, прычым ужо ў 1940 годзе, калі дэ-факта тэрыторыя ўвайшла ў склад БССР.

### Этыкеткі бутэлек

Усе вышэйзгаданыя значкі выраблялі, хутчэй за ўсё, тэхнікай штампоўкі, што з'яўляецца даволі традыцыйнай тэхналогіяй. Усе пералічаныя аб'екты калекцыянавання зробленыя з алюмінію, а гэта найбольш танны і не цяжкі ў апрацоўцы метал. На кожным значку свой набор каляровай гамы, разнастайныя выявы, што і робіць кожны з іх адметным. Не менш важным складнікам значка з'яўляецца і яго форма, што таксама ўплывае на візуальнае ўспрыняцце.

Яшчэ адным важным аб'ектам калекцыянавання, звязаным з Нарачанскім краем, з'яўляюцца этыкеткі ад бутэлек. У шырокім сэнсе слова гэты від калекцыі можа называцца філалідыя. Этыкеткі бутэлек, вырабленыя яшчэ ў савецкія часы, для калекцыянераў фактычна сталі рарытэтам. Такіх ужо даўно не выпускаюць. Яны змянілі сваю форму, як і матэрыял, з якога вырабляюцца.

Прадпрыемства «Нарачанскі спіртзавод» не толькі стала называцца «Нарачанскі завод напояў», але і засяродзілася на выпуску пітной вады. Этыкеткі рознага часу паказваюць якраз на развіццё і эвалюцыю дызайну з савецкіх часоў. Мінеральная вада «Нарочанская» ў незалежнай Беларусі ператварылася ў ваду «Нарач», што аўтаматычна стала сур'ёзнай заяўкай на развіццё беларускага брэнда з мясцовай іскрынкай.

Насычаныя колеры этыкетак вылучаюць бутэлькі на паліцах крамаў, а кароткая назва лагатыпа на матчынай мове лёгкая для прачытання і заўважная. У рэшце рэшт хвалі на этыкетцы нагадваюць, што вада ў бутэльках з берагоў артэзіянскай свідравіны самага буйнога возера Беларусі. Змена профілю можа тлумачыцца тым, што ў 1990 годзе на тэрыторыі завода былі адкрытыя запасы мінеральнай вады.

Розныя аб'екты калекцыянавання могуць шырока адлюстроўваць гісторыю пэўнай тэрыторыі і краю. Аднак з першага позірку здаецца, што значкі ці этыкеткі нічога ў сабе не хаваюць. Калі ж паглядзець на іх шырэй, паспрабаваць праз іх убачыць летапіс мясцовасці, стане відавочным, што яны непасрэдна адлюстроўваюць старонкі багатай гісторыі Айчыны.

**Алесь КРЫЖЭВІЧ.**

Фота svaboda.org.

Турыстычная база, 1935 год.




Значок з аўтаматам Калашнікава.




Фота забяспечанае Алесем КРЫЖЭВІЧАМ.

Савецкі ўзор этыкеткі напою «Нарач».




Міхаіл Невядомскі з жонкай Ганнай працуюць разам.

# Высокія бардзюры аднолькава непатрэбныя ўсім

## Невідушчы валожынец – пра сябе і пра «Павестку 50»

ВАЛОЖЫН

**Гадуе 13 унукаў, іграе на баяне і гітары, умее класці плітку, выдатна працуе з дрэвам, займаецца грамадскай дзейнасцю. Гэта ўсё – пра валожынца Міхаіла Невядомскага, чалавека, які страціў зрок у 15-гадовым узросце.**

17 год Міхаіл – бязменны старшыня Валожынскага таварыства невідушчых. Штодзень раніцай разам з жонкай Ганнай яны ўдваіх едуць на працу. «Я для яго і жонка, і суправаджальнік, і кіёк, і сакратар» – жартуе жанчына, якая працуе разам з мужам у Таварыстве невідушчых.

Разам з Міхаілам Ганна 17 год. Пазнаёміліся тут жа, у таварыстве. На ўліку стаяў брат Ганны.

### Траціць зрок паступова лепш, чым адразу

Міхаіл родам з Валожыншчыны. Нарадзіўся ў Пяршаях. Чатырохгадовым дзіцем перахварэў на залатуху. Ад гэтага пачаў траціць зрок. У канцы 1960-х маці вазіла сына да дактароў у Маскву. Там прапаноўвалі аперацыю. Але яна не пагадзілася. 50 працэнтаў зроку яшчэ было.

Вучыцца хлопчык пачынаў у звычайнай школе ў Пяршаях. А ў восем год паехаў у спецыялізаваную школу ў Гродна. Там вучыліся невідушчыя і дзеці са слабым зрокам.

– Шмат было хлопчыкаў, якія страцілі зрок з-за таго, што падарваліся на мінах часоў Другой сусветнай. У большасці з іх былі да таго ж адарваныя і кісці рук.

У Гродне Міхаіл разам са звычайнай школай скончыў музычную: навучыўся іграць на баяне. А зрок да таго часу знік зусім.

– Я лічу, што страціць зрок раптоўна куды горш, чым паступова, – дзеліцца мой субяседнік. – Калі зрок знікае не адразу, ёсць больш магчымасцяў прыстасавацца да жыцця ў цемры.

У Гродне Міхаіл працаваў на БелТІЗе, займаўся лёгкай атлетыкай, выступаў на спаборніцтвах сярод невідушчых. У пачатку 1990-х сябры паклікалі ў Маскву, пагадзіўся. Але ўрэшце вярнуўся ў родны Валожын.

Сёння Міхаіл Невядомскі да абеду працуе ў Таварыстве невідушчых ад Цэнтра тэрытарыяльнай занятасці, пасля абеду і да позняга вечара – дома. Тут ад прадпрыемства БелТІЗ збірае электрапрыборы. За гэту працу атрымоўвае не менш за 350 рублёў.

### Відушчыя суседзі прыходзяць параіцца

Усё па доме робіць сам. Нават відушчыя суседзі прыходзяць да Міхаіла па параду або інструмент. Па словах субяседніка, працаваць з дрэвам палюбіў з дзяцінства. Часта круціўся каля свайго дзядулі, які працаваў сталярам.

Таварыства невідушчых Міхаіл узначаліў 17 год таму, пасля Францішка Станіслава Сакалоўскага.

Цяпер тут 70 чалавек. Як старшыня таварыства Міхаіл заўсёды выступае за інтарэсы сваіх падапечных:

– Іду ў райвыканкам і нагадваю пра тое, што ў 2015 годзе Беларусь падпісала Міжнародную канвенцыю аб правах людзей з інваліднасцю. Значыць, павінны выконваць патрабаванні гэтай канвенцыі.

Па калідорах райвыканкама Міхаіл ходзіць самастойна, без жонкі. Не бачыць, але ведае, дзе чый кабінет. Кажа, тут да яго слоў прыслухваюцца.

### Далучыліся да распрацоўкі мясцовай павесткі

Калі Валожын абралі пілотнай тэрыторыяй для падпісання «Павесткі 50» – дакумента, які дапамагае выконваць палажэнні Канвенцыі ААН на мясцовым узроўні, Міхаіл актыўна ўключыўся ў працу.

Звяртаў увагу на тое, каб у дакуменце былі прадстаўленыя інтарэсы людзей з інваліднасцю па зроку і людзей з інваліднасцю ўвогуле.

– Два гады мы працавалі. Запрашалі кансультантаў з Польшчы і Даніі. Вырашылі, калі горад будзе зручны для людзей на вазку, значыць, ён будзе зручны і для нас, – дзеліцца Міхаіл. – Высокія ж бардзюры аднолькава перашкаджаюць усім.

Складальнікі дакумента абіралі толькі такія патрабаванні, якія рэальна можна выканаць.

### Безбар'ернасць

Безбар'ернае асяроддзе патрэбнае людзям з інваліднасцю Валожыншчыны, каб без праблем рухацца па горадзе. Для невідушчых неабходная і тактыльная плітка. Яна папярэдзіць іх пра небяспеку на шляху, падкажа правільны маршрут.

Міхаіл ужо размаўляў пра ўкладку такой пліткі з кіраўніцтвам ЖКГ. Абяцаюць накіраваць сталічных спецыялістаў з Мінска, каб навучылі мясцовых работнікаў класці такую плітку.

### Майстэрня па рамонце гаджэтаў

Галасавыя праграмы на мабільных тэлефонах і планшэтах значна спрашчаюць жыццё невідушчага чалавека. Але калі такое прыстасаванне ламаецца, людзі вымушаныя везці іх у іншыя раёны.

– Таму такая майстэрня вельмі патрэбная нам, – лічыць Міхаіл. – Хай яна працуе ў Валожыне хаця б два разы на тыдзень.

У райвыканкаме таксама абяцалі паспрыяць выкананню гэтага пункта павесткі.

### Адэкватныя адносіны да дзяцей з інваліднасцю ў школе

Гэты пункт датычыцца дзяцей на вазках. Часта для іх абіраюць надомнае навучанне. Гэта ў многім залежыць ад кіраўніка школы.

Калі ж прыйшоў новы дырэктар, ён дазволіў дзіцяці на вазку вучыцца разам з усімі. Цяпер, па словах Міхаіла, і дзіця задаволенае, і бацькі. А ў аднакласнікаў фарміруюцца добрыя якасці. Атрымліваецца, што гэты пункт ужо выконваюць.

### Працаўладкаванне людзей з інваліднасцю

– Мы разумеем, што Валожын – горад маленькі. Працу знайсці цяжка і людзям без інваліднасці. І ўсё ж хочацца, каб працадаўцы не баяліся нас. Каб разумелі, што ёсць такая праца, дзе чалавек з інваліднасцю можа добра спраўляцца – падсумоўвае Міхаіл.

Ёсць у Таварыства невідушчых яшчэ адна просьба. Праўда, не ў межах «Павесткі 50». Але вельмі важная. Хочуць, каб увечары ў Валожыне лепш хадзілі аўтобусы. Часам менавіта ўвечары ладзяць канцэрты ў таварыстве. А каб дабрацца дадому, людзі мусяць наймаць таксі, бо пасля сямі-васьмі з гарадскім транспартам – бяда.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

***Матэрыял зроблены ў межах кампаніі «Павестка 50», якую фінансуе Еўрасаюз.***




*Кампанія «Павестка 50» рэалізуецца пры падтрымцы Еўрапейскага саюза ў партнёрстве з Fundacja TUS (Польшча) і грамадскай арганізацыяй «Еўрапейскі дом» (Данія). У рэалізацыі кампаніі ў Беларусі ўдзельнічаюць Офіс па правах людзей з інваліднасцю, Міжнародны кансорцыум «ЕўраБеларусь» і Цэнтр еўрапейскай трансфармацыі.*

## Маладзечанцы перамаглі на першынстве Мінскай вобласці па шахматах

МАЛАДЗЕЧНА

13-15 сакавіка адбылося першынство Мінскай вобласці па шахматах. Спаборніцтвы прайшлі ў вёсцы Станькава Дзяржынскага раёна.

Маладзечанскую зборную прадстаўляла сем шахматыстаў пад кіраўніцтвам трэнера **Віктара Акотчыка**. Па выніках розыгрышу сёмага тура сярод пераможцаў наступныя прадстаўнікі нашага рэгіёна:

у групе юнакі да 12 год маладзечанец **Андрэй Сушко** заняў 3 месца. У групе дзяўчаты да 12 год **Паліна Лось** заняла 2 месца.

Сярод прадстаўнікоў рэгіёна толькі маладзечанцы.

**Таццяна КАСЬЯН.**

## Вызначыўся час правядзення паўфінальных матчаў ХК «Дынама-Маладзечна». Гуляць будуць з камандай «Юнацтва-Мінск»

МАЛАДЗЕЧНА

Два матчы маладзечанская каманда ўжо згуляла ў гасцях. Бліжэйшыя дамашнія матчы пройдуць 23 сакавіка ў 14:45 і 25 сакавіка ў 19:00 у Лядовым палацы.

Калі пераможцу не вызначаць па выніках першых чатырох матчаў, могуць правесці гульні 27 і 31 сакавіка на мінскай «Чыжоўцы-арэне» і 29 сакавіка ў Маладзечне.

Серыя гульняў будзе доўжыцца да чатырох перамог адной з камандаў.

**Аддзел інфармацыі.**

## Футбалісты «Смаргоні» дома разграмілі дублёраў «Гарадзеі»

СМАРГОНЬ

16 сакавіка футбалісты «Смаргоні» на дамашнім стадыёне ў рамках перадсезоннай падрыхтоўкі абыгралі дублёраў «Гарадзеі» з лікам 5:1.

Двума забітымі мячамі ў складзе каманды вызначыўся Уладзімір **Казко**. Па адным голе на свой рахунак запісалі **Аляксей Лозка**, **Павел Дзямідчык** і **Арцём Цяплоў**.

**Сяргей ЮРЭВІЧ, паводле shliah.by.**

## Футбольны клуб «Маладзечна» згуляе з дзяржынскім «Арсеналам» і ФК «Смаргонь»




МАЛАДЗЕЧНА

Дзве сустрэчы на выездзе правядуць маладзечанскія футбалісты. 23 сакавіка – з дэбютантам другой лігі дзяржынскім «Арсеналам». 30 сакавіка каманда згуляе супраць прадстаўніка першай лігі ФК «Смаргонь».

Нагадваем, 16 сакавіка маладзечанцы перамаглі ў таварыскім матчы чэмпіёна турніру дублёраў мінулага сезона ФК «Дынама-Мінск». Вынік сустрэчы – 1:2. Усе мячы на рахунку гульцоў, якія цяпер знаходзяцца на праглядзе.

**Паводле vk.com/fcmolodechno.**

## Смаргонскі лёгкаатлет Аляксей Дудзінскі выйграў міжнародныя спаборніцтвы

СМАРГОНЬ

У Стамбуле прайшла міжнародная матчавая сустрэча сярод юнакоў і дзяўчат з Беларусі, Казахстана, Турцыі, Украіны і Францыі. Абараняць гонар нашай краіны на гэтых спаборніцтвах адправіліся 33 спартсмены 2002-2003 гадоў нараджэння.

Сярод іх быў выхаванец Смаргонскай ДЮСШ прафсаюзаў **Аляксей Дудзінскі** (трэнеры **Дзмітры Жук** і **Уладзімір Дземянчук**). Наш зямляк прадстаўляў Беларусь у скачках у даўжыню.

Дырэктар спартшколы **Алена Барташэвіч** патлумачыла, што гэты старт заключны ў доўгім зімовым сезоне нашых юных спартсменаў.

– Ужо з першай спробы Аляксею Дудзінскаму скарылася сяміметровая мяжа. Лёгкаатлет скокнуў на адзнаку 7 метраў 13 сантыметраў, тым самым пабіў асабісты рэкорд. Гэты вынік дазволіў смаргонцам заваяваць золата для нашай зборнай, – адзначыла Алена Барташэвіч.

У выніку каманда Беларусі заняла трэцяе месца, саступіўшы зборным Францыі і Турцыі.

**Сяргей ЮРЭВІЧ, паводле shliah.by.**




Дзмітры Касцюк з сынам.

Фота забяспечана Дзмітрыем КАСЦЮКОМ.

# «Вельмі не хапае трэніровачнага поля»

## Гулец футбольнага клуба «Маладзечна» спадзяецца, што каманда выйдзе ў першую лігу

**Цяпер ФК «Маладзечна» трэніруецца, праводзіць спарынгі і таварыскія гульні. Хутка пачнецца чэмпіянат другой лігі-2019, і каманда ўжо знаходзіцца ў патэнцыйным спісе ўдзельнікаў. А летась у снежні клуб стаў юрыдычнай асобай – значная падзея ў жыцці каманды. Мы пагутарылі з адным з гульцоў і даведаліся, чым сёння жывуць футбалісты.**

МАЛАДЗЕЧНА

**Дзмітры Касцюк** гуляе ў камандзе ад 2001 года, займае пазіцыю паўабаронцы. Плануе ўдзельнічаць і ў гэтым сезоне.

Па словах гульца, цяпер шмат людзей прыязджае на спарынгі, таварыскія гульні, цалкам каманда пакуль не сфарміраваная. Але касцяк, хутчэй за ўсё, застанецца.

### Не хапае поля для трэніровак

Трэніруюцца тры разы на тыдзень, таксама бегаюць у зале, у выхадныя выязджаюць у Чысцю ці на таварыскія гульні. Але ў пасёлак, дзеліцца мужчына, ездзіць няздручна.

– Цяпер маленькі дзень, гульцы – людзі рабочыя, пакуль дадзеш, трэба ўжо вяртацца.

Дзмітры адзначае, поле ў горадзе добрае і па якасці, і па інфраструктуры, але не хапае месцаў для трэніровак.

– Бяда маладзечанскага футбола ў цэлым, не толькі каманды, што няма трэніровачнага поля. Чамусьці яно ёсць у Чысці, дзе жывуць, прабачце, два з паловай чалавекі, а ў нас няма. Столькі гульцоў, а калупаюцца ў гразі, потым прыязджаюць на вялікія палі і не ведаюць, што рабіць, – кажа футбаліст. – Хочацца, каб трыбуны пафарбавалі, акультурылі, бо быццам у 90-х. А вось што нядаўна знеслі рашоткі, добра.

Дзмітры спадзяецца: тое, што клуб стаў юрыдычнай асобай пойдзе толькі на карысць. І, нарэшце, будзе прасоўванне маладзечанскага футбола.

– Горад ужо не адзін дзясятак гадоў знаходзіцца на дрэнных пазіцыях. Гэта не задавальняе ні гульцоў, ні заўзятараў.

### Калі трэба сыходзіць з каманды

Дзмітры працуе на чыгунцы рамонтнікам, абслугоўвае чыгуначныя масты.

– Мне 32 гады, за час, праведзены ў камандзе, разумееш, футбол – больш, чым проста хобі. Вядома, кожны падрыхтоўчы перыяд даецца цяжка, цяпер футбол – сапраўдная праца. Калі пачнуцца гульні, будзе лягчэй. Падчас сезона гэта работа мае вялікія элементы адпачынку, адрэналіну, сустрэч і эмоцый, – расказвае футбаліст. – Калі няма агеньчыка ў вачах, а гульня пачынае нагадваць руціну, пара сыходзіць з каманды. Але мне дагэтуль цікава, хочацца сабе даказаць, што мы можам больш.

Таксама гулец хоча прыкласці свой досвед і веды, каб дапамагчы моладзі развівацца. Каб клуб стаў для юнакоў прыступкай у больш буйныя каманды. У камандзе трэніруюцца гульцы ад 16 да 40 гадоў.

**Першая задача, прызнаецца Дзмітры, вывесці каманду ў першую лігу.**

Футбалісты падтрымліваюць форму і зімой. Займаюцца ў арандаваных залах, бегаюць, удзельнічаць у турнірах па міні-футболе. «Футбола хапае, не засумуеш», смяецца Дзмітры.

### Сын ужо задумваецца пра футбол

Мужчына прыйшоў у футбольную секцыю прыкладна ў сем гадоў. Займаўся ў дзяцінстве плаваннем, каратэ, але прызнаецца, футбол зачапіў больш. Кажа, у дзяцінстве падабалася каманда «Ювентус».

Цяпер у яго самога двое дзяцей. Аднагадовай Злаце задумвацца пра гульні пакуль рана, але Багдан, якому чатыры, ужо паспеў наведаць футбол.

– Сын ужо прасіў мячык паганяць. Калінікалі пралятае фраза, што хоча быць футбалістам. Думаю, дзіця ў спорт трэба аддаваць найперш для здароўя і фізічнага развіцця.

**Таццяна КАСЬЯН.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Млекакормячая жывёліна, якая па будове свайго цела з'яўляецца самай блізкай да чалавека.
3. Суцэльны рад, сукупнасць.
5. Штучны вадаём.
6. Паводле забабонных уяўленняў – магічныя прыёмы, пры дапамозе якіх можна ўздзейнічаць на людзей і прыроду.
7. У форме іх выпякалі пячэнне беларусы да традыцыйнага свята Гуканне вясны.
8. На першых Алімпійскіх гульнях сучаснасці ў 1896 годзе правялі забег на марафонскую дыстанцыю. Нечакана перамогу атрымаў грэк, які спецыяльна да спаборніцтва не рыхтаваўся. Назавіце прафесію пераможцы.
11. Балотная птушка сямейства галянастых з вялікай дзюбай і доўгай шыяй.
12. Гумка для сціранння напісанага.
14. Расплаўленая сілікатная маса высокай тэмпературы, якая ўтвараецца ў глыбінях зямлі.
16. Тлушчавае адкладанне ў целе жывёльнага арганізма.
17. Па традыцыі ад 1818 года ў гэтым швейцарскім горадзе вясна надыходзіць тады, калі выдаюць афіцыйны ўказ. У цэнтры горада расце каштан. Калі на ім з'яўляецца першы лісцік – вясна прыйшла.
19. Літаратурная мова старажытнай Індыі.
23. Прылада для прыгатавання розных сумесяў, крэмаў.
25. Навукоўцы высветлілі, што вясной яны растуць хутчэй з-за вітаміну Д.
27. Сок, які ідзе з гэтага дрэва, лічыўся крыніцай моцы.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Адказвае на пытанні «хто?» і «што?».
4. Не цёмнага колеру.
6. Рэйкавая дарога, прызначаная для руху цягнікоў.
9. Тканіна, пакрытая з аднаго боку ці з абодвух бакоў асобым саставам, які робіць яе непрамакальнай.
10. У Старажытнай Грэцыі некаторыя жыхары бралі дабро ў пазыку. Тады на зямлі заёмніка ставілі слуп з шыльдай, на якой было напісана гэта слова. Надпіс нагадваў гаспадару, што калі не верне пазыку, гэта зямля пяройдзе таму, каму вінаваты.
13. Еўрапейская назва дзяржаўнага чыноўніка ў старым феадальным Кітаі.
15. Спецыяльнае памяшканне, дзе мыюцца і парацца.
18. Які лік пры дзяленні на два не мае астатку.
19. Частка круга, абмежаваная дугой і двума радыусамі.
20. Вузкая палоска, рыса.
21. Сталіца Турцыі.
22. У 1930 годзе СССР афіцыйна абвясцілі, што сталі першай дзяржавай, дзе перамаглі беспрацоўе. Але ўсё роўна знаходзіліся дармаеды. Такімі лічылі людзей, што больш за чатыры месяцы на займаюцца грамадска карысней працай. Назавіце будучага Нобелеўскага лаўрэата, які атрымаў пяць год ссылкі за дармаедства.
23. Збудаванне для пераходу або пераезду цераз раку, канал, чыгунку.
24. Драбіны.
26. Салодкі кандытарскі выраб у выглядзе плітачкі, шарыка.

## Адказы на крыжаванку з №11

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Чэрці. 5. Сэнс. 6. Бруклін. 7. Адхон. 9. Манета. 12. Мікрафон. 13. Актава. 15. Амулет. 16. Лёд. 19. Завушніца. 20. Праца. 21. Ажына. 24. Сцежка.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Маладзік. 3. Іерусалім. 4. Пармезан. 8. Узнагарода. 10. Прырода. 11. Шаманы. 14. Коўдра. 17. Мурманск. 18. Маёнтак. 19. Збожжа. 22. Акцэнт. 23. Нігерыя. 24. Свіння. 25. Акадэмія. 26. Задарма.



## ● ГАРАСКОП 22-28 САКАВІКА


**АВЕН.** Не бойцеся прысвяціць час сабе. Зрабіце тое, пра што марыце. А знайсці для гэтага магчымасць прасцей, чым вы думаеце. Адчуйце, што перад вамі ўвесь сусвет – і слушнае рашэнне, што рабіць далей, прыйдзе само.


**ЦЯЛЕЦ.** Вучыцеся заўсёды, кожны дзень. Даведвайцеся штосьці новае пра розныя рэчы. Вучоба трымае мозг у тонусе, нават у сталым узросце. І займайцеся спортам, бо спорт – гэта лекі ад усіх хвароб.


**БЛІЗНЯТЫ.** Чэснасць да самога сябе – гэта свабода. Будзьце чэсныя да самога сябе. Самападман – гэта асляпленне самога сябе. Ідэалы сумныя. Нашы адрозненні, асаблівасці, фобіі і недахопы – гэта тое, што робіць нас унікальнымі. Памятайце пра гэта.


**РАК.** Клапаціцеся пра сваё здароўе і ведайце, што менавіта стрэсы і страта душэўнай гармоніі прыводзяць да зніжэння імунітэту і ствараюць умовы для развіцця як вострых, так і хранічных захворванняў. А вірусы і генетыка – гэта ўсяго толькі выканаўцы падрыўной працы, і яны бяссільныя, калі псіхіка знаходзіцца ў раўнавазе.


**ЛЕЎ.** Цяпер вам трэба разабрацца са старымі рэчамі і пачуццямі, і выкінуць хлам не толькі з дома, але і з галавы. А яшчэ вас наведае фенаменальная колькасць каштоўных думак і геніяльных ідэй. Некаторыя з іх варта запісаць – раптам спатрэбяцца.


**ДЗЕВА.** Калі вы зайшлі ў тупік, то не бойцеся папрасіць дапамогі: магчыма досвед іншых людзей ці кампетэнтная парада прыйдуцца дарэчы.


**ШАЛІ.** У вас можа памяняцца меркаванне пра некаторых сяброў. Пры філасофскім падыходзе да жыцця вы лёгка выйдзеце на больш высокі ўзровень свядомасці.


**СКАРПІЁН.** Вам проста неабходна як мага больш адпачываць. Хадзіце па крамах, кафэ, кіно – гэтыя паходы ўразяць.


**СТРАЛЕЦ.** Калі вам здаецца, што вы моцна стаміліся ад адносін, то не варта рабіць з мухі слана. Жыццё з другім чалавекам складаецца не толькі з радасці. Галоўнае, захаваць каханне. Вашы блізкія любяць вас і цэняць, а гэта самае важнае.


**КАЗЯРОГ.** Перыяд парадуе вас добрай атмасферай у сям'і і ва ўласных адносінах. Зоркі абяцаюць мора рамантыкі і радасных падзей. Пастарайцеся з удзячнасцю прыняць усе старанні блізкіх, не чакаючы ад іх нічога большага.


**ВАДАЛЕЙ.** Не звяртайце ўвагу на некаторыя дзівацтвы ў паводзінах вашых знаёмых. Вы таксама не заўсёды ўсё робіце лагічна. Трэба прымаць людзей такімі, якія яны ёсць. Вы будзеце думаць, што з'яўляецеся прафесіяналам ва ўсіх сферах, і будзеце раздаваць парады па любым пытанні. Але варта ведаць, што ўсе разважанні неабходна пацвярджаць практыкай.


**РЫБЫ.** Перыяд выдасца не такі просты, як бы таго хацелася. Але з усім можна справіцца, калі не паддавацца эмоцыям. І вы толькі парадуецеся, што вашы блізкія побач і гатовыя дапамагчы ў любую хвіліну.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | | 4 | 8 | | 2 |
| | 6 | | | 8 | 7 | 9 | | |
| 1 | 7 | | | | | | 6 | 4 |
| 7 | | | 5 | 3 | | | 8 | |
| | 2 | 6 | | | 9 | | | |
| | | 3 | 6 | 1 | | | | |
| | | 4 | | | | | 5 | |
| 2 | | | 9 | | | | | 3 |
| 3 | | 1 | | | | | 9 | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017


## Чытайце праз тыдзень

- Чым дармаедскі Дэкрэт №3 прынцыпова адрозніваецца ад Дэкрэта №1 пра незанятых у эканоміцы? І як жывуць людзі ў рэгіёне, якія ўжо атрымалі жыроўкі з павышаным коштам за падагрэў вады?



## У Беларусі зацвердзілі графік ЦТ

### Першы тэст абітурыенты будуць здаваць 11 чэрвеня

**Уступная кампанія сёлета пачнецца з тэстаў па беларускай і рускай мовах. Адпаведную пастанову апублікавалі на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.**

| | |
|---|---|
| **Беларуская мова** | 11 чэрвеня |
| **Руская мова** | 13 чэрвеня |
| **Грамадазнаўства** | 15 чэрвеня |
| **Матэматыка** | 17 чэрвеня |
| **Біялогія** | 19 чэрвеня |
| **Замежная мова** (англійская, нямецкая, французская, кітайская, іспанская) | 21 чэрвеня |
| **Хімія** | 23 чэрвеня |
| **Фізіка** | 25 чэрвеня |
| **Гісторыя Беларусі** | 27 чэрвеня |
| **Геаграфія** | 29 чэрвеня |
| **Сусветная гісторыя** (найноўшы час) | 1 ліпеня |

У пастанове – устаноўлены адукацыі, вызначаныя пунктамі рэгістрацыі для праходжання ЦТ, у тым ліку ў рэзервовыя дні, а таксама пунктамі правядзення ЦТ. У рэзервовыя дні ЦТ правядуць у БДУ.

Час працы пунктаў рэгістрацыі – ад 9:00 да 19:00, у суботнія дні (18 мая і 1 чэрвеня) – ад 9:00 да 18:00. Зарэгістравацца для праходжання ЦТ у рэзервовыя дні можна ад 30 чэрвеня да 2 ліпеня.

Час пачатку ЦТ, у тым ліку ў рэзервовыя дні, – 11:00.

Атрымаць сертыфікаты абітурыенты змогуць у пунктах правядзення ЦТ ад 10 ліпеня, у БДУ (рэзервовыя дні) – ад 13 ліпеня.

**Паводле Нацыянальнага прававога партала.**



● ПРОСТА АНЕКДОТ

***

Гараскоп на заўтра: у аптымістаў будзе ўсё дрэнна, але яны не заўважаць. У песімістаў будзе ўсё добра, але ім зноў не спадабаецца.

***

– У мяне была праца ў кампаніі па вытворчасці ахоўных дзвярных сістэм. Каб прадэманстраваць, як гэта працуе, я тэлефанаваў у першую кватэру, якая траплялася. Калі ніхто не адгукаўся на званок, проста пакідаў рэкламную брашуру на кухонным стале.



## 23 сакавіка, субота

**Вецер:** паўднёва-заходні, 5 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР’Я. АШМЯНЫ**

Мінімальная тэмпература -20,7°С у 1980 годзе
Максімальная тэмпература +18°С у 2014 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 7,9 мм у 1991 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Які сон запомніўся вам найбольш за ўсё?



**Вольга Буянава, загадчык метадычнага аддзела Мядзельскага раённага Цэнтра культуры, Мядзел:**

– Нядаўна прыснілася, як з калегамі ратавалі наш горад ад нячыстай сілы. Усё праходзіла стандартна. Мы – супергероі, усіх перамагаем. Пад канец – я апынулася нявестай на вяселлі. Мы ўжо не супергероі, а проста людзі.



**Вераніка Янцэвіч, інжынер-тэхнолаг, Смаргонь:**

– Бачу сны часта. Самы запамінальны быў пра тое, што ў дзень пахавання маёй бабулі яна мне прыснілася і распавяла пра смерць нашага сваяка. Толькі не сказала, хто памрэ. Кажа: «Хутка даведаешся». І праз дзень мы даведаліся пра смерць яшчэ аднаго сваяка.



**Яўген Гулецкі, эканаміст, Вілейка:**

– Сны залежыць ад перажыванняў. Сняцца і прарочыя. Памятаю, снілася авіякатастрофа. У абед – у навінах паведамленне, разбіўся самалёт, адразу думка: «Я ж гэту катастрофу сніў сёння». Падчас хваробы з дзяцінства заўсёды снілася адзін страшны сон. Гэта цягнік, які ідзе на мяне.



**Ганна Паўлюшчык, бухгалтар у Вілейскай ЦРБ, Вілейка:**

– Сны сняцца ці не кожную ноч, пераважна каляровыя. Сказаць, што нейкі запомніўся, не магу. Але часам бываюць такія моманты, калі здаецца, што ты такое ўжо недзе бачыў. І потым разумееш, што гэта снілася. Быццам дэжавю. Сны не запамінаю, думаю, яны не нясуць ніякага сэнсу.



**Кацярына Гірдзюк, ветэрынарны доктар, Маладзечна:**

– Самы запамінальны прысніўся за тыдзень да родаў. Сніўся дзядуля, які мне падказаў, як назваць дзіця. Назвала ў гонар дзядулі Іванам.



**Валеры Андрэеў, навучэнец ільянскага каледжа, Маладзечна:**

– Кашмары сняцца даволі часта. Самы запамінальны сон, як я еду ў цягніку і ён рэзка спыняецца. Людзі выходзяць і не разумеюць, што адбываецца. Сон абрываецца, я прачынаюся. Сон сніўся некалькі разоў. Але ніколі не мог дагледзець яго да канца.



**Ігар Пашкевіч, педагог, Маладзечна:**

– У снах пабываў у антычнасці, сярэднявеччы, эпосе адраджэння, будучыні. Вывучаў традыцыі, глядзеў на жахі войнаў, цешыўся з новых тэхналогій. Але ніяк не мог прымяніць веды. Мо, гэта былі хваляванні з-за самавызначэння ў жыцці.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**


Рэгіянальная газета. Аб’ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№12 (1247) 22.03.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 441. Падпісана ў друк у 9.00 21.03.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.